# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1729) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 2 ЛІПЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.




3 ліпеня 1989 года мінае 45-ая гадавіна ад таго дня, калі з-пад нямецка-фашысцкай акупацыі быў вызвалены горад Мінск — сталіца БССР, горад-герой. На здымку новы Мінск. Фота Яўгена Казюлі.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## МУЗЕЙ ПОМНІКАЎ ЦІ ПОМНІК-МУЗЕЙ?

Музей заўсёды быў гарачым пунктам нашых спрэчак. Невыпадкова. Ад нараджэння герою не шанцавала. Немаўляцем падкінулі ў чужую хату, далі „рэгіянальную" прапіску. Салодкі дзіцячы сон спыніла пажыццёвая ссылка ў мазурскі Цехановец.

Цяпер падае надзеі на ўваскрашэнне. Руплівыя бацькі шыкуюць адраджэнскія харомы, з усяго свету плывуць неацэнныя гасцінцы. Засмучае толькі цяжкое і незразумелае імя, падрыхтаванае жаданаму прышэльцу хроснымі: „Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху". Нашы прашчуры ў імя ўкладвалі свае жаданні, таму мы пераможцы, міра-славы, верныя, надзейныя і каханыя. Адкуль у беларусаў — мужыцкага народу — узялася цяга да панскіх выкрутасаў? МПБКР!

Перагарнуў я даступныя мне энцыклапедыі, нідзе такога скрыжавання не знайшоў. Падобным спосабам крыжавалі ў Белавежы зуброў з каровамі — без толку.

Пара выйсці з казённага словатворчага тупіка, у які загналі нас стражнікі ідэі адзінанацыянальнай Польшчы, пара парушыць і павятовыя амбіцыі (ёсць у Беластоку Музей рэвалюцыйнага руху — і мы не менш чырвоныя!).

Відома, засталіся і стражнікі і амбіцыі. Але дазволена быць беларусамі. І нас датычыць правіла „Што не забаронена законам — дазволена". Які закон забараняе назваць нам музей простым і ўсеабдымным словам „беларускі", як і называем паміж сабою: Беларускі музей. Ушануем традыцыю: быў такі музей у даваеннай Вільні — і ні гораду, ні Польшчы не замінаў.

Што датычыць „рэвалюцыйнага", дык і ў гэтай сферы многае змянілася (у СССР, напрыклад, пашыраецца пагляд, што эпоха Сталіна была контррэвалюцыяй), паводле якіх крытэрыяў будзем вызначаць „рэвалюцыйнасць" экспанатаў? Ці беластоцкі музей зацесны для гайнаўскіх рэвалюцыянераў?

Калі Гайнаўка будзе ўпарціцца, можна выдзеліць спецыяльную экспазіцыю, але ў рам-

(Працяг на стар. 2)

# ІЎЕ, ІЎЕ або ЯК ПАЎЛЫ З РЫБАЛАМІ ПАСЯБРАВАЛІ

Сто прычын склалася на тое, што пра паездку паўлаўцаў і рыбалаўцаў у Іўе пішу толькі цяпер, месяцы праз два пасля яе. Вярнуўшыся, не паспеў я добра ачухацца, як на Беласточчыне заварылася такая палітычная каша, якой я не толькі што не еў, але і ў снах пра яе не сніў. Усе мае знаёмыя кінуліся з галавою ў вір перадвыбарчай кампаніі, хай на яе ліха, і мяне туды ж засмактала. Але вось выбары мінулі, ліхаманка адступілася, і я магу сабе спакойна прысесці і напісаць пра тых, пра каго напісаць павінен. Тым больш, што дайшлі да мяне чуткі, быццам выведзеныя з цярплівасці паўлаўскія жанчыны наважыліся зрабіць са мною такое, аб чым нават намёкам немагчыма ўпамянуць, не замахваючыся на маральную цнатлівасць беларускага слова ў „Ніве".

Дык вось, 24 красавіка паехалі мы ў Іўе: тэатральны калектыў з Паўлаў са сваім інструктарам Янкам Морданем, хор „Хлопцы-рыбалоўцы", пані Ружа Насароўская з Гміннага асяродка культуры ў Заблудаве, Сцяпан Копа з Беластока — кіраўнік цэлай групы і на прычэпку ніжэй падпісаны, як прадстаўнік беларускамоўнай прэсы ў Польшчы.

На граніцы сустрэў нас дырэктар Віктар Губіч з абласнога аддзела культуры ў Гродне, чалавек дужа заклапочаны культурнымі кантактамі паміж Гродзеншчынай і Беласточчынай, і тут жа прыдзяліў нам праваднікa, паню Тамару, каб мы не паблудзілі, едучы ў Іўе. А ехаць нам давялося ад самага Гродна гадзіны дзве з гакам, бо Іўеўскі раён знаходзіцца на ўсходнім ускраі Гродзеншчыны.

Па дарозе Ясь Мордань распавядае мне, як недзе год назад абяцаў паўлаўцам заграничныя гастролі. бо баяўся, што ягоны калектыў рассыплецца. Я і сам не ведаў, што нагода выезду надарыцца так хутка, кажа мне ў сакрэце перад сваімі артыстамі.

Хлопцы-рыбалоўцы сядзелі са сваім шэфам Міхалаем Ігнацюком на пярэдніх мясцох у аўтобусе, а паўлаўскі тэатр прымасціўся ззаду, за дэмаркацыйнай лініяй пустых месцаў. Што ж гэнае знача? Крыху збянтэжаныя паўлаўцы тлумачаць мне, што няма поўнай грамадска-культурнай інтэграцыі Рыбалаў з Паўламі, хаця вёскі гэтыя ад сябе, як каменем кінуць. Кожны мае свой гонар, кажуць. Ага.

Пераязджаем праз Віскупцы, і Ясь Мордань паказвае мне родны дом Дануты Бічэль-За-

(Працяг на стар. 6)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 360

*Марку*

Іскрынка мае цела, калі яго дакранае паветра,
якое, подыхам тваім сагрэтае, хваляй трапяткой плыве між намі.
І не пасмею павекі ўзняць, і ў гэтым трапятанні стыну:
ува мне бліск нараджаецца, як боль, і лепш патушыць яго
спешна,
пакуль не займуцца сцены драўляныя агнём няшчадным,
лакомым,
і станем попелам лётным паміж зор серабрыстых.
А так мне бяспечна было ў маім спакойным доме,
калі, дзіцё вясёлае, запалкамі гуляла я!

**Міра Лукша**

Ціхія словы на світанку перад ад'ездам
жар папяросы і кароткі кашаль
не можаш зразумець што значыць свабода
расстанемся ў болі гневе нянавісці
лепшае гэта ад засушаных кветак
што вісяць над тваім ложкам

мо яшчэ так астанемся ў жывых.

*

Індывідуум прагны волі адвечнай
не знайшоў паваротнай дарогі
застыў на павароце гісторыі
як лёгка стаўся ён вязнем
і дрыжачай рукою піша толькі прашэнні
не ведаючы ці ёсць прадаўцам ці прадаваным
рахунак сумлення зроблены ім перад сабою
ёсць найлепшай паэзіяй
якой ніхто на свеце яшчэ не пісаў.

**Яўген Вапа**

# ПРОСЬБА

Калі ён адразу згадзіўся з маёй просьбай, я зразумеў, што нічога з гэтага не будзе.

Падтакваў мне неяк не пamужчынску... Мы размаўлялі на рагу Цёплай; ад агарода каля адвентысцкай капліцы навейвала на нас пахі язьміну і — ужо — вечарынак.

Я глядзеў у яго такія спагадлівыя вочы.

— Так, ага, — ён зноў пацвердзіў.

— Зрабі мне гэтую ласку, дзетка! — Я яго вельмі прасіў, з сардэчнасцю таго чалавека, які ўсё-такі чагосьці спадзяецца ў важным для сябе.

Мы пачалі былі ісці ў глыб вуліцы і я — нанава выкладваў яму сутнасць маёй просьбы, і падрабязна пераказаў справу. Усё ўявілася ясным; ён нават тайком пазяхнуў, а яговы зрок — замглёны, і як бы заплаканы, — тужліва кіраваўся ў далечыню. (Успамінаючы тую сваю размову з ім, бачышча мне, што нагадваў тады я сабою паганага хлопца, якому не можа прабачыць дзяўчына...).

Я, вядома, дапусціў памылку: патрабаваў ад яго карысці толькі сабе! Была гэта чыстае вады просьба, аб якой можна прачытаць у рыцарскім рамане (наіўным). Нерэальная. Здараюцца, праўда, адступленні: калі пачнібы чалавек мае дачыненне якраз з такім жа, што — зазвычай — лічыцца вялікай рэдкасцю.

Мне, выгнанаму з саліднай пасады, было цяжка ўбіцца на іншую, больш-менш прыстойную работу. Прытым душылі мяне нягоднікі, якія, на маю бяду, мелі рацыю (па прычыне некаторых маіх паводзінаў)... Я, бы тая рыба на беразе, усяляк кідаўся, гатоў ухапіцца за самы скромны кавалак хлеба, каб перачакаць найгоршае. — Гэта ёсць страшнае пакутванць ад слўшнага зневажэння з боку менавіта тых, якія даўно не заслугоўваюць добрага слова!

Разлічваў на тое, што ён, — так, ён! — дапаможа мне стаць на работу, хаця б абы-якую, і, такім чынам, дасць магчымасць жыць зболышага па-людску, дабіцца духоўнай раўнавагі, вярнуць, яшчэ нязгубленую мною, чалавечнасць. Паступіць на службу без непазбежных у падобным становішчы тлумачэнняў як ад навапрынятага. (Я быў не першай маладосці, калі, пасабачаны акалічнасцямі, апынуўся сярод не скупых на сяброўства рэкамендантаў у прайдзісветы).

Я разважыў, што прыняць мяне, няхай сабе і ў грузчыкі на дайлідскім складзе дошак, будзе яму малы клопат як дырэктару дрэваапрацоўчай фірмы, якой — трэба і гэта дадаць тут, — пастаянна не хапае рабочай сілы.

Мая просьба, цалкам голая і без якога-колечы аспекту даверу да мяне, а нехта сказаў бы: працацякая, мінімальная дарэшты, безабаронная вось... Ах, колькі гэта гаварыць пра ўсё! Дарэчы, а ці варта?

**Сакрат Яновіч**

*

прачнулася гоманам
у бярозавай прасторы
лаўрэнцыем
спалоханае
рэха
узляцела
на крылах зязюлі
у вусны першага слова
абмыла
снегам вішнёвага саду
загадзя
паморшчаны твар

чалавек
занава
стаў
расці
выпрамляць
у дугу
згорбленыя
плечы
каб
толькі не аглянуцца
вышугнуць
з венаў жывёлахатнюю
пакорнасць
а то ізноў
аслепне
рэха
пако...ца
ў чорны
замак
ціпыні
каб блукаючы там
вышываць
узор
жыцця
абыякавы
як ты сам
патрэпаны
як падлеткава вопратка



*

учарашні сон
накрэсліў прымхлівай рукою
надзею
сённяшняга дня
затрымаў у паўжэсце
завешаны на шэфавых дзвярах
позірк
лісліві пакорнасцю
як жыццё
паміж
учора
і
заўтра
без
ужо
і
яшчэ
праз якое паўзе чалавек
мазолячы калені
за каўбасным звонам чужога
стала
ён не затрымаўся

учарашні сон
разбіўся
аб люстру мурашкавай
карпатлівасці

**Віктар Стахвюк**

* * *

час імчыцца безупынна
клопаты
штодзённыя падзеі
запаўняюць увесь дзень
і думка з табою:
„для нас гэта, для нашых
дзяцей"
але прыдзе
хвіліна адзіная
калі ўбачыш іронію
на тварах другіх
і цвёрдую веру
ў доказах тэарэмы:
„усё попелу фунта не варта"
табе
рукі павісн{у}ць
планы велікапышныя
намеры цудоўныя
бягуць радам у кут
на месцы застынуць
босыя ступні твае
нікчэмныя сталі
працаўнікаў успехі
агеньчык надзеі адзін
пачынае іскрыцца
на дне
заломанай словам душы
ў цябе явіцца
раз за разам
маса энергіі
з якой
вызваліць цела
захочаш ты

**Ніна Ваўранюк**



## ЮБІЛЕЙНАЕ

Ужо трыццаць гадоў
Паціху мінае,
Як з паперак слоў
Вершы складаю.

Здзіўленне і жах
Агарнула на момант;
Такі доўгі шлях
Пачаты бы ўчора.

А ў тым падарожжы,
Бы ў праўдзе жыцця —
Было многа гора
І радасць была...

Не знікла надзея,
Сумлення не страціў,
А тое, ў што верыў,
Пачынае збывацца.

**Уладзімір Гайдук**

* * *

калі буду шчаслівы
пашукаю сябе
сяду ў поезд невядомы
куплю абстрактны білет
звычайна
дзесьці ад'еду
а можа не
і так вярнуся экспрэсам
толькі дзе?
там дзе была а была тут
хтось прывітае або і не
павядуць мяне чамаданы
да нікога
з'ем некалькі строф
і ...
каб не грашыць
лягу спаць

**„Ваву"**

# ІЎЕ, ІЎЕ або ЯК ПАЎЛЫ З РЫБАЛАМІ ПАСЯБРАВАЛІ

(Працяг са стар. 1)

гнетавай. А потым пускаецца ў расповяды, па якой канюшыне ён тут хадзіў і ў каго гарэлку купляў. Чалавек ён бывалы ў гэтых краёх. Сяджу, развесіўшы вушы, і лыпаю вачыма. Для мяне гэта першая паездка на Беларусь.

У Іўі нас сустракаюць перад мясцовым Домам культуры. На Доме культуры афіша-анонс паўлаўскага тэатра з пастаноўкай камедыі Яновіча „Сто хвароб на аднаго чалавека“. На беларускай мове. Пры Доме культуры дзейнічае народны тэатр, кіраўніком якога з'яўляецца Віктар Багушэвіч. З ім асабіста і з ягоным тэатрам Янка Мордань пазнаёміўся раней, падчас Дзён Гродзеншчыны на Беласточчыне. Так што свой трапіў да свайго.

Апеку над намі пераймае Уладзімір Мікалаевіч Журавель, загадчык культурнага аддзела раённага выканаўчага камітэта ў Іўі. І неўзабаве вядзе нас на абед у рэстаран. Ох, і даліся нам тыя абеды, сняданкі і вячэры ў Іўі! Кармілі нас там так, быццам мы прыехалі з заморанай, галадаючай краіны. Кранаючая гасціннасць і сардэчнасць. Каб нам нічога не збывала. Ад шчырай душы. Дзякуем.

А пятай гадзіне зыходзяцца гледачы, выступленне пачынаецца міні-канцэртам „рыбалоўцаў“, пасля Валянціна Краснадэмбская выступае з маналогам адной такой пані Тэадоры, а наканец галоўны пункт праграмы — „Сто хвароб“. Публіка трохі ашаломленая. Што ж гэта дзеецца: прыехалі палякі, а выступаюць на беларускай мове? Вось табе! „Как они прекрасно говорят на нашем языке! Приятно послушать“, — шэптам прызнаецца адна глядачка сваёй суседцы. Карыстаю з нагоды і соваю ёй у рукі навагодні нумар „Нівы“. І тут жа цягнецца да мяне лес рук: сорак экземпляраў, якія я не надта ахвотна ўзяў з Беластока, расхапілі мігам. Каб жа мне ведаць раней пра такое, дык я ўзяў бы з сабою сотні дзве, і то не ўсім, пэўна, хапіла б. Пачынаючы ад другой дзеі, рэплікі паўлаўцаў на сцэне перапыняюцца штораз гучнейшымі раскатамі рогату публікі. Камедыя Яновіча мае адну сціплую, але немалаважную прыкмету: яна сапраўды смешная. А паўлаўцы іграюць класна і з псіхічным люзам, які ствараецца тады, калі выканаўца адчувае, што існуе сапраўды кантакт паміж ім і гледачом. Пасля авацыі запрашаюць на сцэну артыстаў з Іўя, дораць ім сувеніры і сёлетнія нашы календары. Публіка пазірае сумнавата. Календароў усяго трыццаць. Затым, стоячы, усе спяваюць „Бывайце здаровы, жывіце багата“. Спявае і тая пані, якой спадабалася беларуская мова „палякаў“.

Увечары маленькі прыём у рэстаране. Выступае іўеўскі ансамбль народнай музыкі „Ча-



*Янка Мордань і Віктар Багушэвіч перад Домам культуры ў Іўі.*



*Касцёл у Іўі.*

# ЮЛЬЯНА ВІТАН-ДУБЯЙКОЎСКАЯ
# СМЕРЦЬ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

— 4 —

— Добра, што вы, жанчыны, маеце Бога ў сэрцы і ўмееце маліцца, вось і мама мая была вельмі набожная, — успомніў Іван.

— А так, памятаю, як у лісце сваім, яна вас, сыноў сваіх, даручала апецы Маці Вострабрамскай.

— Ну і ты, хоць і ератычка, пасылала паставіць Антосю свечкі перад Вострабрамскай, калі Ляля была безнадзейна хворая.

— Ну так, Ясенька, як трывога, то да Бога! Яська, і цяпер я дала перад выездам Пятрусі загад, каб паставіла ў Вострай Браме свечкі на тваю інтэнцыю. А сёння я памалюся за цябе, каб ты прыпомніў малітвы, якім цябе навучыла твая маці. Але ўжо позна, мне час ісці. Да заўтра, мой родны!

Я пацалавала яму вочы і перахрысціла яго, чаго раней ніколі не рабіла. Ён тады ўзяў маю руку, пацалаваў і сказаў:

— Дзякую табе.

**15-га жніўня**

У наступны дзень, у пятніцу, мы ўтрох: Ляля, Уладак і я прыйшлі да Івана. Ён быў якісь паважны, але міла прывітаўся, дзякаваў Уладку за адведзіны (Уладак прыйшоў развітацца, бо на другі дзень выязджаў), і прасіў усім кланяцца, пытаўся, як яму спадабаліся горы, і ў супольных гутарках прайшоў час да абеду. Ляля і Уладак выйшлі. Іван быў стомлены гасцьмі, сястра прынесла абед, а я пайшла ў сталовую. Ксёндз сядзеў у другім канцы стала і гэтым разам я з ім не гутарыла. Калі я ціха ўвайшла да Івана, ён драмаў, я села ў крэсла і глядзела на майго беднага Івана. „Што робіць хвароба з чалавека, — думала я, — хто б пазнаў у ім былога Івана, рухавага, жывога, найчасцей у добрым настроі, з мілай, або жартаўлівай усмешкай, з жывымі, добрымі вачыма, у якіх, як іншым разам казала я, сядзеў вясёлы чорцік, бо Іван любіў пажартаваць і дабрадушна высмеяць каго-небудзь. Ну, і іскры ягоныя вочы ўмелі сыпаць, калі быў гнеўны, але гэта хутка праходзіла і зноў добрая ўсмешка ажыўляла ягоны твар“.

Цяпер гэта быў худы твар, у якім яшчэ больш выступалі скулы, вусны тонкія, нос завостраны, вочы запалыя, толькі ягоная добрая ўсмешка прыпамінала былога Івана, мне хацелася плакаць, бо хутка і гэтай усмешкі, з якой мяне вітае, не пабачу болей. Але вось Іван прачнуўся, ён як бы штосьці прыпамінаў, а потым, заўважыўшы мяне, усміхнуўся:

— Ах, як добра, што ты пры мне, дай руку, але пачакай, адчыні вакно, я хачу глынуць свежага паветра.

Стаялі цудоўныя ціхія дні, сонца ўсё залівала, чыстае, горнае паветра было насычанае пахам сенажацяў, мне ніколі так лёгка не дыхалася, як тады. Іван як бы з радасцю ўдыхнуў гэтае паветра, наканец пачаў:

— Праўда, у такім паветры я хутка папраўлюся, вось бачыш, гарачка перастала мучыць мяне. (Ад слабасці ў яго моцна ўпала тэмпература).

— Ну так, ты цяпер і лепш выглядаеш, асабліва пасля сну, — цешыла я яго.

Ён ізноў замоўк, твар ягоны спаважнеў і ён пачаў:

— Вось, Юлінька, мы ўчора ўспомнілі маму і ведаеш, яна мне прыснілася.

— І што яна табе казала? — спытала я.



*Выступае пані Тэадора (Валянціна Краснадэмбская).*



*„Сто хвароб на аднаго чалавека“. Вера Харытанюк (работніца), Марыя Харытанюк (пані).*

барок“ пад кіраўніцтвам Івана Паўлавіча Чарняка. Але ж і музыканты! Агонь! А тая салістка, што спявала „Цячэ вада ў ярок“! Ах, Божа мой...

Віншаванні, тосты, зычанні, усё як трэба. Пачынаем пакрысе растлумачваць іўеўцам беларускі аспект жыцця на Беласточчыне. Калі раней нехта прабаваў загаворваць з намі папольску або па-расейску, то пад канец вечара ўсе напавал захліствваліся беларускамоўем. А потым Васіль Андраюк шпарнуў маналог Кавешкі з „Кар'ера“ Быкава, на падставе якога паўлаўцы таксама прывезлі сцэнічную пастаноўку. А Морданя ўсё рупіла дыскутаваць аб тэатральным мастацтве. У гасцініцу іўеўцы правялі нас тлумам. Запрашаю ў пакой трох іўеўчанак, каб канчаткова высветліць нашу нацыянальную сітуацыю, спадзеючыся тут на тэарэтычна абгрунтаваныя доказы Морданя, але ж дарэмна. Ясь пайшоў сабе дыскутаваць пра тэатральнае мастацтва з Віктарам Багушэвічам. Нацыянальную сітуацыю высвятляў я сам. Без значных вынікаў, на жаль.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

Тэкст і фота
**Яна Максімюка**



*Беларускія календары — тэатральнаму калектыву з Іўя.*

— Нічога, але ўзяла мае рукі як бы хацела іх злажыць. Што гэта значыць?

— Ах, — сказала я, — кажуць, як з'яўляюцца нябожчыкі, то яны жадаюць малітвы. Ну, бачыш, ты з любоўю ўспомніў учора маму і яна на твой заклік прыйшла да цябе, а што рукі злажыла, то мусіць малітвы просіць.

І мы пачалі гаварыць на тэму замагільнага жыцця, як яго ўяўляе народ і паэзія, і ўспомнілі „Дзяды“ Адама Міцкевіча. Іван вельмі пераняўся гэтай тэмай. Ужо вечарэла, праз адчыненае вакно пачуўся звон на „Анёл Паньскі“.

— Ясенька, — сказала я, — вось звоняць на „Анёл Паньскі“, ці мы не змовім за душу тваёй мамы пацеры?

— А ты знаеш „Анёл Паньскі?“

— А як жа?

— Ну, так кажы!

Я ўзяла ягоныя рукі ў мае і пачала ціха, а потым галасней казаць „Анёл Паньскі“. Я не бачыла, ці ён паўтараў словы, у якія я ўклала ўсё сваё пачуццё, ён толькі мацней сціскаў мае рукі. Скончыўшы „Анёл Паньскі“, я пачала галасней адмаўляць „Ойчэ наш“; калі я сказала словы: „адпусці нам віны нашыя“, я пачула, як Іван ціха іх паўтарыў, я глянула на яго, дзве слязы пакаціліся па ягоным твары і ён далей паўтараў за мной словы малітвы да канца. Я, узрушаная, нахілілася да яго і са слязьмі пацалавала яму руку.

— Чаму ты плачаш, Юлінька? — ціха спытаў Іван.

— Ах, Ясько, гэта слёзы радасці, што мы злучыліся ў малітве.

— Так, мы цяпер сапраўды адно, — ціха адказаў Іван і паклаў мне другую руку на галаву. Не ведаю, як доўга я ляжала, прытуліўшы да ягонай рукі.

Калі я ўстала, каб ісці дадому і хацела развітацца, Іван на мяне глыбока глянуў і ціха сказаў:

— Юлінька, я ўсім прабачыў, — і позірк ягоны быў ужо незямны. Я нічога не магла адказаць, перахрысціла яго, пацалавала гэтыя вочы і выйшла. Зайшла да сястры, папрасіла, каб не спяшалася з вячэрай для Івана, бо ён узрушаны. На калідоры я спаткала ксяндза, які ішоў у сталовую на вячэру, ён, пабачыўшы мае слёзы, затрымаў мяне і з трывогай спытаўся:

— Чаму пані гэтак засмучаная, ці гэтак дрэнна з панам Луцкевічам?

— Не, гэта слёзы ўзрушання, бо сёння мы злучыліся ў малітве.

Ён вельмі ўсцешыўся і сказаў, што заўтра раніцай пастараецца падрыхтаваць Івана да споведзі, бо першы лёд зламаны.

Я йшла дарогаю і дзякавала ў душы ягонай маці, бо гэта яна нам дапамагла і плакала ад узрушання і ціхага жалю, бо ведала, што хутка ён нас пакіне назаўсёды.

Ляля кінулася да мяне, пабачыўшы мае слёзы:

— Што з Іванам, Юлінька?

— Лялінька, ён са мной адмовіў „Ойчэ наш“!

— Юлінька, якое гэта шчасце, — і яна абняла мяне і таксама заплакала.

**16-га жніўня.**

У суботу мы вырашылі не ісці перад абедам да Івана, таму, што ксёндз абяцаўся быць у яго. Мы зайшлі да пані Алексяеўскай, эмігранткі, і гутарылі аб нашым дарагім хворым і ейнай дачцы, што разам вучылася са мной на курсах. На абед мы вярнуліся ў пансіён і потым паехалі ў санаторыю. Калі мы ціхенька заглянулі да Івана, ён драмаў. Ляля мне шапнула, што пойдзе праведаць знаёмых, бо ў санаторыі яе ўжо шмат хто ведаў, асабліва адна старшая пацыентка любіла ейныя візіты. Я ціха села ў крэсла.

*(Працяг будзе)*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




# „ЗОРКА" Ў ГАСЦЯХ У ДУБЯЖЫНЕ

Пад канец навучальнага года школа ў Дубяжыне вырашыла зрабіць падсумаванне сваёй пазалекцыйнай працы, гэта значыць, актыўнасці вучняў у розных галінах грамадскага жыцця, удзелу ў розных конкурсах, у тым ліку і ў беларускіх. Нагодай да гэтага стаў адыход на пенсію шматгадовай настаўніцы беларускай мовы Неанілы Філіпчук, а таксама дырэктара школы Мар'яна Акштульскага. „Зорка" з прыемнасцю прыняла запрашэнне настаўнікаў і вучняў пабываць з гэтай нагоды ў іх школе.

І вось, 6 чэрвеня на ганку школы, прыгожа абсаджанай кветкамі, дзеці павіталі „Зорку" хлебам-соллю на вышываным ручніку і павялі паказваць сваю школу.

Першым запрасіў да сябе спалучаны клас пяці- і шасцікласнікаў. Яны падрыхтавалі беларускую сцэнку „Свавольныя зайчаняты", якую развучылі з „Зоркі". З гэтай п'ескай яны выступалі ў сёлетнім аглядзе тэатральных калектываў. Хоць гэтым разам у класе выступалі без масак, але ігралі добра і было цікава. Потым заспявалі некалькі беларускіх песень.

Чацвёрты клас таксама паказаў „Зорцы" сцэнку — п'есу „Праведалі". І іх пастаноўка аказалася займальнай, а затым і чацвертакласнікі даказалі, што і яны добра спяваюць, шмат ведаюць беларускіх песень.


*Так дзеці павіталі „Зорку" хлебам-соллю на вышываным ручніку.*

Запрасілі да сябе ў клас і васьмікласнікі. Гэта былі іх апошнія дні ў школе. Размова наша вялася ўжо вельмі па-даросламу: гаварылі аб выбары прафесіі, аб паступленні далей вучыцца, аб пашане да ўсяго роднага, асабліва да мовы, вынесенай з дому, ды і наогул нашай нацыянальнай годнасці. Васьмікласнікі паказалі „Зорцы" свой школьны этнаграфічны куточак, які па колькасці экспанатаў мог бы быць і школьным музеем. Складаецца ён з вялікай колькасці старых прадметаў хатняга ўжытку, якія былі сабраны ў вёсцы (значную іх колькасць настаўніца беларускай мовы сабрала па сваёй радні) і ваколіцы, а вельмі многа экспанатаў робяць самі вучні на сваіх школьных занятках па ручной працы. Тут жа побач — маленькія кросны. На іх вучні самі ткуць белыя ручнікі з чырвоным арнаментам, бежнікі, дыванікі.

Наогул, школа ў Дубяжыне, як адзіная ў ваяводстве, знаходзіцца пад патранатам беластоцкай „Цэпэліі". Гэтая ўстанова займаецца арганізаваннем вырабу і распаўсюджваннем прадметаў народнай творчасці. Патранат „Цэпэліі" над школай заключаецца ў заахвочванні вучняў вучыцца ад старэйшых людзей у вёсцы вырабляць прадметы хатняга ўжытку з гліны, саломы, дрэва, а таксама працягваць па традыцыі розныя формы вясковага рукадзелля. Пад пільным вокам настаўніцы Валянціны Шарко дзяўчаткі вучацца вышываць, ткаць, гафтаваць, вырабляць розныя пляцёнкі і ўсё іншае, ды так добра, што ў сёлетнім конкурсе

(Працяг на стар. 10)


*Вучні сёмага і восьмага класа ля куточка сваёй творчасці.*

## БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

**Частка 3.**

Паспачуваў цар Глінскаму-Папялінскаму ды загадаў лепшым сваім краўцам і шаўцам пашыць яму новае абмундзіраванне.

Як бачыш пашылі краўцы і шаўцы новае абмундзіраванне. Адзеўся Глінскі-Папялінскі, прыхарашыўся і паехаў з царом у палацы.

Пагаманіў з ім цар, пачаставаў, а потым і кажа:

— А цяпер хацеў бы я паглядзець твой маёнтак: калі ты і праўда такі багаты, дык аддам за цябе дачку.

Спужаўся Глінскі-Папялінскі: якое ж ён багацце пакажа цару? Увесь яго маёнтак — адна гліняная печ, ды і тая развалілася.

Пачуў пра гэта кот Максім. Паклікаў ён свайго гаспадара ўбок і шэпча яму:

— Не бойся! Усё добра будзе.

Запрэглі царскія конюхі самых лепшых коней ў самую лепшую карэту. Сеў цар у карэту і паехаў. А кот наперадзе пабег — дарогу паказваць.

Едзе цар, едзе, пад'язджае да маёнтка Змея Гарынавіча. Кот наперадзе бяжыць. Бачыць: пастухі вялікую чараду кароў пасуць. Падбягае ён да пастухоў.

— Чые вы? — пытаецца.

— Змея Гарынавіча.

Кот натапырыў вусы, грозны стаў:

— Не кажыце нікому, што вы пастухі Змея Гарынавіча, а кажыце — Марціна Глінскага-Папялінскага. Бо за мною ляціць Гром з Перуном — ён заб'е вас.

Сказаў так кот Максім і пабег далей. Сустракае вялікую чараду коней.

Падбег да канюхоў і пытаецца:

— Чые вы, канюхі?

— Змея Гарынавіча.

— Не кажыце нікому, што вы Змея Гарынавіча, а кажыце — пана Глінскага-Папялінскага. Бо за мною ляціць Гром з Перуном — ён заб'е вас.

Тым часам царская карэта з громам пад'ехала да пастухоў.

— Чые вы? — пытаецца ў іх цар.

— Пана Марціна Глінскага-Папялінскага, — адказваюць пастухі.

— О, — дзівіцца цар, — багаты пан Глінскі-Папялінскі!

Гэтак жа адказалі і канюхі.

Пакуль цар ехаў, кот прыбег у двор Змея Гарынавіча. Убачыў самога Змея і крычыць:

— Хавайся, Змей Гарынавіч! Едзе Гром з Перуном — ён цябе заб'е і на муку сатрэ.

Спужаўся Змей Гарынавіч:

— Куды ж мне схавацца?

Кот паглядзеў і ўбачыў вялікае дупло ў старой ліпе.

(Працяг на стар. 10)




(Працяг са стар. 9)

— Лезь хутчэй сюды! — кажа Змею.

Залез Змей у дупло, а кот забіў дупло паленам ды яшчэ і глінаю замазаў. Потым пабег да Змеевых слуг.

— Чые вы? — пытаецца.

— Змея Гарынавіча.

— Не кажыце нікому, што Змея Гарынавіча, а кажыце, што пана Марціна Глінскага-Папялінскага. Бо за мною ляціць Гром з Перуном — ён заб'е вас.

— Добра, — кажуць напалоханыя слугі.

Прыехаў цар у маёнтак Змея Гарынавіча. Слугі кінуліся сустракаць яго.

— Чый гэта маёнтак? — пытаецца цар.

— Пана Марціна Глінскага-Папялінскага! — у адзін голас алказалі слугі.

— Ну, што ж, — кажа цар, — сапраўды багаты пан Глінскі-Папялінскі. Аддам за яго дачку.

Тут цар вярнуўся ў свае палацы, паклікаў музыкаў і загадаў іграць веселле.

Усяго там было: хто што хацеў, тое піў і еў. І я там быў, еў і піў, па барадзе цякло, а ў роце не было.

---

## Вершы Віктара Шведа

### ЯРАСЛАЎ НА БОБІКА СВІСТАЎ

**Мама пачала сварыцца:**
**— Спэцканы такі чаму?**
**— Я пакорпаўся ў зямлі...,**
**Рукі брудныя таму.**

**— Бачу, што два пальцы толькі**
**Чысценькія, Яраслаў.**
**— Я на свайго брата Кольку**
**Ды на Бобіка свістаў.**

### РУКІ Ў КІШЭНІ ПАКЛАДЗІ

**— Не замінай ты мне, Кандрат,**
**Лепей вазьміся за навуку.**
**Працы ў мяне, як бачыш, шмат,**
**Не ведаю, куды дзець рукі.**

**Да мамы кемлівы сынок**
**З парадаю такой звярнуўся:**
**— Кішэні мае фартушок,**
**Рукі туды схавай, мамуся.**

### НЕ РАБІ З СЯБЕ ДУРНОГА

**Прыйшла суседка да суседкі**
**Са скаргай на гарэзу Ваню:**
**— Ты прыкажы, хай мяне дзетка**
**Перадражняць больш перастане.**

**І знерваваная матуля**
**Сынка паклікала малога:**
**— Не раз жа ўвагу мы звярнулі,**
**Каб не рабіў з сябе дурнога.**

# „ЗОРКА" Ў ГАСЦЯХ У ДУБЯЖЫНЕ

**(Працяг са стар. 9)**

„Цэпэліі" для школьнікаў работы з Дубяжына занялі ў Беластоку восем першых месц і высланы на цэнтральны конкурс у Варшаву.

Еля Краўчук, васьмікласніца і ўдзельніца ваяводскай алімпіяды па рускай мове, запрасіла „Зорку" паглядзець, як прыгожа ўдэкараваны іх кабінет рускай мовы. Зрабілі гэта вучні разам са сваёй настаўніцай Надзеяй Аверчук.

Беларускую мову вывучаюць усе дзеці ў школе. А настаўніца Нееніла Філіпчук стараецца, каб зацікавіць вучняў не толькі чытаннем падручніка, але і ўдзелам у працы тэатральных калектываў, якія працуюць амаль у кожным класе, рыхтуе дзяцей да конкурсаў — дэкламатарскага і беларускай песні, ды і наогул усе тут умеюць спяваць прыгожыя беларускія песні. Вось нядаўна Войцех Томчук добра спяваў на цэнтральным аглядзе беларускай песні. Івона Аверчук і Ася Ваўранюк удзельнічалі ў беларускім дэкламатарскім конкурсе, а ў конкурсе тэатральных калектываў школа штогод займае вядучае месца.

Удзельнічаюць вучні і ў іншых конкурсах, прычым вельмі паспяхова. Для прыкладу, у конкурсе „Моладзь на моры" заваявалі Кубак куратара, у конкурсе на дакармлянне звяроў і птушак зімою, які арганізаваў паляўнічы гурток „Рысь" у



*Пяты і шосты клас на рэпетыцыі п'есы „Свавольныя зайчаняты".*

Бельску, — І месца ў раёне, у конкурсе „Маладосць-цвярозасць" — дыплом з адзначэннем і 50 тысяч злотых узнагароды, за лесанасаджэнне і азеляненне школьнага пляцу — падзяка ад гміны і аддзела лясніцтва Ваяводскай управы ў Беластоку, за ўдзел у конкурсе „Наша школа чыстая і здаровая" — атрымалі прыгожую карціну ад арганізатараў.



*Чацвертакласнікі ў п'есе „Праведалі".*

Вясна прынесла дзецям чарговую прыемнасць — пачаліся экскурсіі. Старэйшыя вучні аб'ехалі Паўднёвую Польшчу па трасе: Люблін — Наленчаў — Казімеж-Дольны — Пулавы. Малодшыя дзеці пабывалі трошкі бліжэй — у Трэблінцы, Цеханоўцу, Драгічыне і на Грабарцы.

Цяпер ужо канікулы. Усе адпачываюць. Хто паедзе ў лагер, хто ў госці да сваякоў, а большасць дзяцей застанецца дома, будзе адпачываць, дапамагаць бацькам па гаспадарцы.

Жадаем усім добрага адпачынку, цікавага і карыснага. І не забывайце пра „Зорку". Чытайце яе і пішыце ў рэдакцыю аб сваіх цікавых справах.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

---

## Вясёлы куточак

* ✲ *

— Навошта ты павесіў аб'яву: „Увага, сабака?" Твой сабака ж заўсёды спіць!

— Таму і павесіў. Бо ўчора на яго ледзь не наступілі.

* ✲ *

Лекар здзіўлена пытаецца ў пацыента:

— Чаму вы за жывот трымаецеся, калі кажаце, што вам галасавыя струны баляць?

— Бо я гавару з жыв...

* ✲ *

— Што ты на мяне так упарта глядзіш? — пытаецца настаўнік у вучня.

— Нядаўна вы самі казалі, што мы павінны мець мужнасць адкрыта глядзець неб... ў во...

* ✲ *

— Я ўсё купіў, што ты заказвала, — хваліцца прафесар жонцы.

— Так? А дзе ж твая сумка?

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, п/а Краснае, вул. Андракіна, 10. Аксёнавай Юлі.

* ✲ *

СССР, 686323, Магаданская обл., Сусуманский район, п. Широкий, ул. Скворцова, 2-11. Кавериной Тане.

* ✲ *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Пульного, д. 7, кв. 6. Миронову Максиму. 3 клас.

* ✲ *

СССР, Молдавская ССР, г. Бельцы, ул. Колисова, 3/31. Грабовской Наташе. 5 клас.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Падзялі карцінку дзвюма лініямі на тры часткі так, каб у кожнай частцы было па тры дрэвы і тры чалавекі.

## НІЎКА

### РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Адкрыванне** — зраненне да крыві.
**Адлавіць** — паднесці з лавы.
**Адлазіць** — выразаць лазу.
**Адлюстраваць** — пабіць люстра.
**Адмучыцца** — прадаць муку.
**Адназерка** — Вера без кавалера.
**Адназерац** — хлопец (муж) Веры.
**Адпатомнік** — пісьменнік, які напісаў адну кніжку.
**Адносіны** — вяртанне пазычаных прадметаў.
**Адпараны** — разведзены.
**Адпарванне** — развод.
**Адпляваць** — пазбавіць плявы, напр. дзявочай.
**Адраіць** — выкінуць з раю.
**Адраканне** — вылаўліванне ракаў.
**Адратавацца** — выплаціць усе раты.
**Адрачэнне** — высушэнне рэк.
**Адсадзіць** — вырубаць сад.
**Адхвастаць** — адрубаць хвост.
**Адчайнасць** — крызіс на гарбату.
**Адчапляць** — адстрэльваць чаплі.

ядань

### У МАЛАДОЙ СЯМ'І

— Не ведаю, любы, наколькі цябе
абрадую весткай такою.
Аднак ужо смела скажу я цяпер
што хутка нас будзе ўжо трое...
— Дык гэта ж цудоўна! І цвёрда у тым
упэўнена ты ўжо, Ганула?
— Бясспрэчна, каханы. Пісьмо вунь
ляжыць —
да нас пераедзе... бабуля.

**Васіль Гедзька**


„Кракадзіл".




### АФАРЫЗМЫ

Звычайна ар'ергард даўняга авангарда з'яўляецца авангардам новага ар'ергарда.

*

Уласнае бяссілле таксама небяспечнае, як чужое насілле.

*

Народ можа мець адну душу, адно сэрца, адны грудзі, якія надстаўляе, але бяда, калі мае толькі адзін мозг.

*

Не ўсюды, дзе даражэе мяса, узрастае вартасць чалавека.

*

Калі міф сутыкаецца з міфам, гэта вельмі рэальнае сутыкненне.

*

Найлепш падстаўляюць ногі карлікі, гэта іх зона.

*

Надалей з'яўляемся каставым грамадствам з перавагай касты нецвярозых.

**Станіслаў Ежы Лец**

### ГУМАР З ГАБРАВА

— Ці гэта праўда, што ты аддаў сваю дачку замуж за касіра свайго прадпрыемства?
— Праўда.
— Але ж ты не давяраў яму?!
— Не давяраю і цяпер. Але сёння, калі і ўкрадзе мае грошы, то і так аддасць іх маёй дачцэ.

*

Купляе габравянін рыбу. Прадавец пытае, якую частку рыбы яму адрэзаць.
— Адрэж, калі ласка, трохі ад галавы. О, гэтак... Цяпер адрэж ад хваста. Так, так, добра... А зараз давай мне сярэдзінку...

*

Жыхар Габрава купляў сабе сасіскі. Прадавец далажыў яму яшчэ маленькі цюбік гарчыцы.
— Як гэта? Я ж гарчыцу не прасіў!
— Да сасісак дадаем яе бясплатна.
— Тады дайце мне толькі гарчыцу.

*

Ашчадны габравянін вырашыў сам адрамантаваць дах свайго дома. Рабіў гэта няўмела, паслізнуўся і зляцеў з даху. Праляцаючы каля вакна кухні, дзе мітусілася яго жонка, паспеў яшчэ крыкнуць: „Не буду сёння на абедзе, вары на адну порцыю менш!"

### СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

**І ТУДЫ ГАРА, І СЮДЫ ГАРА**
(народная)

І туды гара, і сюды гара,
А з-пад тыя гаранькі крутыя
Кацілась зара.*

То не зорачка, то не ясная,
То дзяўчына на ліцо бялява
Па ваду ішла.

— Дзяўчына мая, напаі каня
Да з рублёнай, з рублёнай
крыніцы,
З поўнага вядра.

— Каб жа знала я, што буду
твая,
Напаіла б каня варанога
З поўнага вядра.

— Дзяўчына мая, сядай на каня,
Да й паедзем, паедзем з табою
Да майго двара.

— Ў цябе ні двара, ў цябе
ні кала,
Толькі стаіць адзін куст
каліны —
Да й та не цвіла.

— Каліна мая, чаму не цвіла?
— Зімой былі лютыя марозы —
Цвету не дала.

— Дзяўчына мая, што й замуж
не йшла?
— Маладой была, у найме
хадзіла —
Хлопца не знайшла.

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.




— Паспрабуй яму сказаць, што ты запісалася ў члены Таварыства аховы жывёл...


— Мая дарагая, у магазіне на рагу вуліцы вядзецца распрадажа жывёл!..


— І падумаць, што некаторыя пераканаdebug, што падарожжа аўтастрадай гэта адпачынак!




Часам тыя, хто служыць прыкладам, больш ні на што не падыходзяць.